# НОВАЕ ЖЫЦЬЦЁ

**Цана асобнага нумару 800 м. п.**

Адрес рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Вострабрамская вул. 9 (Ostro bramska 9).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 штодня апрача сьвяточных дзён.

**Выходзіць раз у тыдзень.**

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3000 м.п. Для заграніцы ўдвая даражэй.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 800 мк., сярод тэксту 600 мк. і на апошняй страніцы 400 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

№ 8. Пятніца, 27-га красавіка 1923 г. Год I.


**УВАГА! Рэдакцыя і Адміністрацыя газэты „НОВАЕ ЖЫЦЬЦЕ“ з 20-га сакавіка (марца) зьмяшчаецца на ВОСТРАБРАМСКАЙ вул. № 9.**

## „Цяжкі дух“.

Нацыянальныя меншасьці, што пайшлі ў польскі Сойм, апынуліся ў дужа цяжкім палажэньні.

Ідучы на выбары, яны гэтым самым выявілі сваю веру, што польскі народ, польскія работніцкія і сялянскія масы, якія роўна з намі церпяць ад панаваньня польскіх паноў, пойдуць поруч з „інародцамі“ ў барацьбе за волю і права. — У першы мамэнт соймавай працы здавалася, што так яно і будзе. Здавалася, што ўрад Сікорскага шчыра хоча споўніць свае шчодрыя абяцанкі, дадзеныя беларусам і украінцам з соймавай трыбуны.

На жаль, гэта толькі *здавалася*... Бо дагэтуль ніводная з абяцанак генарала Сікорскага ня споўнена, а ў той-жа час Сойм сваей пастановай асыгнаваць 50 мільярдаў марак на падмогу „асаднікам“ ясна паказаў, як ён адносіцца да справы пазбаўленьня роднае зямлі беларускага і украінскага сялянства...

Стварылася цяжкая атмасфэра, запанаваў у сойме цяжкі дух. Голасу нашых дэпутатаў польскія паслы ня слухаюць: гавары, як да сьцен! Прапазыцыі „інародцаў“ згодна адкідываюцца польскай большасьцяй. Правыя („хіена“, што йшлі на выбарах пад нумарам восьмым і „пястоўцы“ (партыя польскіх сялян-кулакоў) згаварыліся між сабой і рыхтуюцца ня толькі трымаць у сваіх руках Сойм, але і захапіць урадовую ўладу, замяніўшы генарала Сікорскага і яго міністэрства Вітасам і „сваімі“ людзьмі.

Што суліць нам гэтакая перамена ўлады? — Здаецца, адказу на гэта доўга шукаць ня прыдзецца: яна суліць нам адно тое, што цяперашні уціск „інародцаў“, прыкрыты прыемнай усьмешкаю вышэйшае ўлады, будзе гэнаю ўладаю вясьціся зусім адкрыта і бяз ніякае усьмешкі!

Але спадзеваная перамена ўлады павінна прынясьці з сабою яшчэ нешта другое, чаго аб'еднаўшыяся паны абшарнікі і сяляне-кулакі мо' і не спадзяюцца. Ад панска-кулацкае ўлады блага прыдзецца ня толькі беларусам, украінцам і другім „інародцам“, але і польскім работнікам і сялянскай беднаце. Пазнаюць і яны цяжкую руку панскую — хоць і сваю „родную“. І вось гэта прымусіць і польскія працоўныя масы, і тыя партыі, што прадстаўляюць іх у Сойме, шукаць хаўрусьнікаў дзеля барацьбы за волю і права сярод прадстаўнікоў беларускае, украінскае, нямецкае і жыдоўскае дэмакратыі.

І мы думаем, што панска-кулацкая ўлада, хоць і творыцца пад штандарам крайняга польскага нацыяналізму, давядзе да таго, што цэнтр цiжару з нацыянальнага пытаньня пяройдзе да сацыяльнага, што паглыбіцца сацыяльная сьвядомасьць народных масаў, баламучаных нацыяналізмам, і што з гэтых масаў выйдзе магутны кліч да зьмены самых асноваў дзяржаўнага будаўніцтва Польскае рэспублікі.

Мы павінны з гэтым сур'ёзна лічыцца. Ня гледзячы ні на што, ні на якія прасьледаваньні і спадзяванае ўзмацаваньне нацыянальнага уціску беларусаў і другіх нацыянальнасьцей, мы павінны ўсе нашы сілы пакіраваць на тое, каб не паддацца грубай сіле, каб захаваць сваё нацыянальнае „я“. сваю душу і культуру, каб ня даць споўніцца адносна да нас старой прыказкі непапраўных пэсымістаў: „пакуль сонца ўзыйдзе, раса вочы выесць“.

Мы павінны верыць, што, ня гледзячы ні на што, нашае сонца нам яшчэ засьвеціць, што „наша праўда нам паможа,—блісьне сьвет і к нам у ваконца!“

**Лаўрыновіч.**

## Палітычныя падзеі.

**У Баўгарыі** адбыўся кангрэс соцыялістаў балканскіх дзяржаў, якія пастанавілі імкнуцца да сацыялістычнай фэдэрацыі балканскіх народаў.

**У Ірляндыі** была партыя рэвалюцыянэраў, на чале якіх стаяў дэ Валеры, які ня мог згадзіцца з апошняю развязкаю ірляндскага пытаньня. Яны думаюць, што такая незалежнасьць, якую цяпер дала Ірляндыі Англія, ёсьць нішто іншае, як адно ашуканства. Яны распачалі барацьбу з ангельцамі і тымі ірляндцамі якія пагадзіліся з ангельцамі за дараваную „незалежнасьць“. У апошнія часы угадоўскія войскі акружылі атрады дэ-Валеры і яму гразіў палон. Тады начальнік штабу Лінч, стаў сам адстрэлівацца, каб даць магчымасьць збавіцца свайму правадыру. Паміраючы ад ранаў, Лінч заявіў, што для яго лепш сьмерць, як ганбячая няволя.

**Бельгія.** Адбыўся кангрэс бельгійскіх сацыялістаў, на якім між іншым разглядалася справа акупацыі Рура. Прынята рэзалюцыя, каб разам з іншымі сацыялістычнымі партыямі імкнуцца да зьнясеньня акупацыі і дабіцца справядлівага разрашэньня пытаньня рэпарацыйных сплат Нямеччыны пры дапамозе Лігі Народоў і Работніцкага Інтэрнацыяналу. Вандэрвэльдэ ў сваім дакладзе сказаў: „Цяпер стала ясна, што ўрады ня могуць разьвязаць гэтых пытаньняў і што гэтая ня здольнасьць ёсьць вынікам палітыкі гвалту. Каб вырашыць яго работнікі мусяць паразумецца і здабыць уладу ў рожных краёх“.

**Англія.** Лідэр рабочей партыі Гэндэрсон выслаў да Бонар-Лоу ліст, у якім заяўляе, што рабочая партыя лічыць, што перарыў гандлёвых стасункаў з Расеяй меў бы некарысны ўплыў на ажыўленьне міжнародных стасункаў і дабрабыт Англіі. Дзеля гэтага рабочая партыя спадзеецца, што ўрад ня будзе прытрымлівацца гэтай недальнавіднай палітыкі, якая хацела-б парваць гандлёвыя зносіны з Расеяй.

## Памяці Ігната Канчэўскага.

Быццам дыямэнт цудоўны, дзіўным хараством гарэла Яго душа сярод жыцьцёвага бруду, маны, крывадушнасьці.

Жыў дзеля вялікага ідэалу вызваленьня свайго народу ад духовага, палітычнага і эканамічнага рабства. Але ў кожным выяўленьні Яго працы перш за ўсё відаць было гарачае ўмілаваньне чалавека. І чалавека хацеў Ен вызваліць у беларусе.

Маладая, жывая, чыстая душа шукала дорогі да яснаты, да шчасьця людзей. Шукала і змагалася і мучылася труднасьцяй дасяганьня; і сумавала, бо давялося ёй жыць у

„час, калі трэба журыцца
„душою на сьвежых магілах“...

Гэтыя радкі Ігнат Канчэўскі зьмясьціў наперадзі свайго, здаецца, адзінага публіцыстычнага твору, што выйшаў ў асобнай кніжцы: „Адвечным шляхам“ (Вільня 1921) пад псэўдонімам „Ігната Абдзіраловіча“.... не здарма ўжыў Ен за псэўданім імя героя „Дзьвюх Душ:“ бо-ж і Ен перажываў унутраную барацьбу ломку духовую, падобна Абдзіраловічу, але толькі з гэнае барацьбы выйшаў пабедна, як сьвядомы сваей мэты грамадзкі працаўнік—ідэаліст.

* * *

Ігнат Канчэўскі радзіўся ў маі 1896 году тут, у нашай старой Вільні. Тут-жа скончыў рэальную школу, а пасьля вучыўся ў тэхналягічным інстытуце ў Пецярбурзе і ў Маскоўскім унівэрсытэце (на філялягічным факультэце). Вайна спыніла навуку: у 1916 годзе яго ўзялі ў салдаты. Як чалавека з адукацыяй, аддалі ў школу прапаршчыкаў. Папаўшы на румынскі фронт, як афіцэр, Ен зразу-ж начаў працаваць над асьведамленьнем жаўнераў у 44 украінскім полку, стоючы на грунце праграмы сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Тут прыждаў і рэвалюцыі. Але чыста партыйныя справы не здаволівалі Канчэўскага: сам чалавек жывы, кіпучая натура, мімаволі захапіўся ідэяй вызваленьня тых „мужыцкіх“ народаў, што хавалі ў сабе вялізарныя укрытыя скарбы духовае творчасьці. Ен горача спагадае украінцам і памагае ім тварыць нацыянальнае войска, ў якім жаўнеры Яго абіраюць за афіцэра. Адначасна ў душы Яго выкрысталізовываецца цьвёрдая сьвядомасьць, што імпэрыялістычная вайна—гэта сорам для людзкасьці. Яму агідна жаданьне „пабеднага канца“, і вось Ен у 1917 годзе кідае войска і выяжджае на Дон, дзе і жэніцца.

У восені тагож году бачым Канчэўскага ў Маскве, як студэнта вышэйшых Коопэратыўных Курсаў пры унівэрсытэце Шаняўскага. Арганізацыя масаў народных на грунце самапомачы вельмі вабіць Яго. Скончыўшы курсы, Ен працуе нейкі час у Смаленску, як інструктар ад Цантр. Саюзу Льнаводаў.

Але тая іскра нацыянальнае сьвядомасьці, што распалілася ў Яго душы гледзючы на прыклад братняга нам украінскага народу, не дала Канчэўскаму стаяць з боку, калі ў цэнтрах Беларусі пачалася вялікая беларуская нацыянальная і дзяржаўная работа. Яго пацягнула ў родную Вільню, куды Ен і прабраўся ў 1919 годзе. Абабраўшы сабе за спэцыяльнасьць коопэрацыю, Канчэўскі працай сваей на гэтым грунце далучаецца да агульна-нацыянальнага будаўніцтва — сьпярша, як коопэратыўны інструктар Совнархозу, а пасьля — як працаўнік Віленскага Саюзу Коопэратываў. На апошнім становішчы закончыў сваё жыцьцё 21 гэтага красавіка.

* * *

Нацянальная ідэя ўсё ярчэйшым полымям разгаралася ў душы Канчэўскага. Чым больш крыўд і зьдзеку цярпеў наш народ, тым мілей і даражэй станавіўся для гэтага чыстага ідэаліста, ворага ўсякага гвалту і уціску. У апошнія гады працы ў Вільні Канчэўскі пачынае пісаць і друкаваць свае разважаньня і думкі аб беларускай справе і вершы пад псэўданімам Ганна Галубянка ў беларускіх часопісах. Як „культурнік“ перад усім, паводле магчымасьці аказываў помач беларускай віленскай гімназіі, вядучы ў ёй вучнёўскі гурток, па геаграфіі, закладаючы вучнёўскі коопэратыў. І ўсюды, дзе толькі выступае, сустракаецца з глыбокай пашанай і шчырай любоўю.

Выявілася гэта і ў сумным абразе пахаваньня Канчэўскага. Правадзіць цела Яго да магілы сабралася беларуская моладзь, беларускія культурныя і грамадзкія працаўнікі, таварышы коопэратары. Шчыры сум абхапіў усіх, хто знаў нябожчыка і разам з ім працаваў.

Усё жыцьцё Канчэўскага, поўнае ахвярнасьці дзеля вялікага ідэалу, Яго „гарэньне“ ў бязупыннай працы на карысьць свайго народу мелі ў сабе гэтулькі духовага хараства, што нават сьмерць ня можа зацямніць яснаты Яго абразу. І яснай, сьветлай будзе памяць Ігната Канчэўскага сярод беларусаў.

**А. Л.**

### Урад Савецкай Украіны у справе усходніх граніц Польшчы.

Заступнік комісара заграгічных спраў Савецкай Украіны Якаўлеў у размове з прадстаўніком Росты заявіў, што пастанова Рады паслоў Урад Украіны ні да чога не абавязывае. У працягу апошніх 3 год мы на практыцы пазналі вартасьць такіх пастановаў, маючых такую самую вартасьць, ўсё роўна як бы рада народных камісараў па заграгічным справам савецкіх рэспублік вынесла пастанову аб далучэньні Абісыніі да італьянскіх калёній у Афрыцы. Аднак надта дрэнна, што Польшча, дав-

